# Звон.

Беларуская штодзенная політычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад Рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Мінск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня, апрача сьвят ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

**Цана абвестак:**
за 1 радок за тэкстам . . . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку 2 м.

№ 3. Менск, Пятніца 29 жніўня 1919 г. № 3.


Дзеле вялікага недахвату паперы газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: *у панядзелак, сераду і пятніцу*.

## Абвестка № 1.

1) Гэнэральны Камісар Усходних Зямель распарадзіуся, каб на усей Менскай зямлі, занятай цяпер польскім войскам ад сягодняшняга дня быу заведзены Цывільны Урад.

2) Уся зямля, якая раней называлася Менскаю губэрняю, апрача Новагрудскага і Пінскага павету цяпер завецца Менскім округам.

3) Округ дзеліцца на паветы і воласьці. Граніцы паветау і валасьцей будуць такіе самые, як былі і раней.

4) Начальнікам Менскага округу будзе Намесьнік Гэнэральнага Камісара у округу, а начальнікамі паветау—паветовые камісары.

5) Намесьніка Гэнэральнага Камісара у округу і паветовых камісарау назначае Гэнэральны Камісар усходніх земель.

Начальнікамі у кожнай воласьці будуць Войты (старшыны), а у кожнай весцы і сяле—солтысы (старасты). Войтау і солтысау будзе назначаць паветовы камісар.

Намесьнік Гэнэральн. Камісара Менскага Округу
Ул. РАЧКЕВІЧ.

Адміністрацыйны Кіраунічы справамі МЕНЧАНОУСКІ.

## Плебісцыт на Беларусі.

Як ведама, на Літве і у нас, на Беларусі, павінен адбыцца плебісцыт. Што тычыцца Літвы, то яна сама за сябе пастаіць. Мы толькі мусім зазначыць, што політычная доля Літвы аднаковая з політычнаю доляю Беларусі, што нашы старонкі прадстауляюць адну эконамічную адзінку, разьбіць каторую ня можа адважыцца ніхто, калі думае будаваць сваю работу на цьвёрдым гістарычным і эконамічным грунце. Толькі ў політычнай і эконамічнай злучнасьці з сваім гістарычным адвечным суседам і кампаном, з Беларусьсю, Літва можа быць Літвою. Сама па сабе Літва ня мае політычнага значэньня і ангельцы яе *толькі* цешаць абяцанкамі. Усю гісторыю Літвы рабілі беларусы, і калі Беларусь пры сучасным палажэньні—адзінка (1), то Літва нуль (0). Адгэтуль відаць, што толькі ў політычнай і эконамічнай злучнасьці Літвы з Беларусьсю, яна мае значэньне, бо толькі пры адзінці і нуль творыць значную цыфру *10*. I наагул, рэяльны політык заўсюды шукае цьвёрдага, пэўнага і выпрабованага грунту. А гэты цьвёрды і выпрабованы грунт ёсьць наша слаўная гісторыя, каторая сьведчыць, што Беларусь, Літва і Польшча заўсюды складалі адну політычную злучнасьць. Сюды далучалася яшчэ і Украіна, але калі яна сама ня здолае вызваліцца с-пад Масквы, то на сучасную сітуацыю рахаваць ей трудна, бо Маскоўшчына ніколі ня памірыцца з утратаю Украіны. Гэта з аднаго боку, а з другога боку трудна спадзявацца, каб Польшча магла цяпер -жа аказаць ёй рэяльную помач, хоць, як відаць з газэт, украінцы вядуць у гэтым сэнсе перагаворы з Польшчай.

Зазначыўшы гэта, вернемся да плебісцыту на Беларусі. Плебісцыт—гэта ёсьць запытаньне да ўсяго народу пэўнага краю: за каго ён сябе лічыць і як мае будаваць сваё жыцьце, або, лепей сказаць, *як ён хоча жыць*, з кім ён мае кампанаваць ці да каго далучыцца, або хоча жыць сам сабою, *незалежна ад нікога*. Калі на плебісцыту людзі скажуць, што яны—палякі, то іх землю далучаць да Польшчы, а калі скажуць, што яны—расійцы, або маскалі, то іх аддадуць Расіі, або Маскоўшчыне. Кожны з нас ведае, што „прымацкі хлеб батрацкі“. Дык вось дзеля таго, каб не аддалі нас да каго небудзь у прымы, дык народ наш павінен сказаць, што ён не паляк і не маскаль, або расіец, (рускі), але *Беларус*. Далей ён павінен сказаць, што хоча мець сваю гаспадарку, або сваё ўласнае дзяржаўнае Гаспадарство і прасіць Польшчу, каторая мае сілу і з каторай Беларусь цэлые соткі год жыла супольна, каб яна дапамагала ёй адбудаваць сваё Гаспадарство, каб яно потым політычна далучылося да яе, як *роўнае з роўным і вольнае з вольным*, подлуг жаданьня нашых продкаў.

Але ня можа быць нічога горшага на сьвеце, калі народ наш, дзеля свае нацыянальнай несьвядомасьці, назаве сябе расійцам і калі яго далучаць да Маскоўшчыны. Маскоўшчына—вінавайца ўсяго нашага гора, усей нашай гістарычнай пакуты. Гэта дзякуючы ёй старонка наша на працягу соткі год была полем вайны для расійцаў са швэдам, французам, а потым немцам. Мы ужо ня кажам пра тое, што Масква ніколі не паважала і паважаць ня будзе нашай нацыянальнай душы, і ніколі ня будзе шанаваць нашай мовы, нашай культуры і лічыць нас за асобны народ. Вось-жа каб не здарылося гэтага, дык няхай дазволена будзе павесьці шырокую агітацыю сярод несьвядомага беларускага народу.

I толькі тагды плебісцыт можа даць патрэбные рэзультаты. Польская улада павінна зрабіць гэта, бо палякі добра ведаюць, як цяжка пераджываць політычны палон і нацыянальную паняверку. Беларуская інтэлігэнцыя, як плоць ад плоці і кроў ад крыві народу свайго, мае права гаварыць за яго і апекавацца лепшай доляй яго. Беларускіе дзеячы павінны мець шырокую магчымасьць рабіць зьезды, склікаць сходы, мітынгі як у месьце, так і на сёлах і вёсках.

скае прэсбюро паведамляе: прускі міністар грашовых справаў ўнес ў раду міністраў проэкт аб выдачы быўш. кайзэру Вільгельму 70 мільёнаў марак.

**Антанта і Украіна.** Лозанна. „L'Ucraine" паведамляе: «Вышэйшая Рада мірнай конфэрэнцыі пастанавіла, нарэшці, паслаць на Украіну анкетную місію, на чале з начальнікам гэнэральнага штабу Лежэрэ і паручыкам Жэнэрвье. Прыехаўшы 21 ліпня ў Камянец-Падольскі, місія адразу пачала зносіны з абодвымі украінскімі урадамі, маючы на мэці высьніць палажэнне краю і настрой насялення. Выказываючы тое, што мы можам толькі пашкадаваць чаму гэта не сталося на некалькі месяцаў раней, цешымся з таго, што нам ў будучыне не давядзецца задавальняцца тэндэнцыйнымі інформацыямі расійскіх монархістаў.

——

# Беларуская кроніка.

**Фармаваньне Беларускага войска.** Беларуская Вайсковая Камісія выдзеліла падкамісіі: арганізацыйную з палкоўнікам Канапацкім на чале статутную з Я. Станкевічам на чале і кваліфікацыйную на чале з інжэнэрам К. Душэўскім. Арганізацыйная падкамісія мае сваім заданьнем апрацаваньне проэктаў стварэньня беларускіх баявых адзінак; статутная занята перакладамі ваенных статутаў і уставаў, якая праца мае быць закончана у канцы гэтага месяцу.

**Новая беларуская часопісь.** Хутка у Вільні пачне выходзіць новая беларуская газэта «Незалежная Беларусь". Газэта мае выходзіць 3 разы у тыдзень.

**Голад у быўшым прыфронтавым рубежы.** У Беларускую Цэнтральную Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны прыежджаюць чуць ні што дня дэлегацыі, якіе паведамляюць аб цяжкім становішчы насяленьня быўшага прыфронтовага рубежу. У гэтых частках Свенцянскага, Ашмянскага, Навагрудзкага паветаў дзеля браку хлеба, пануе пошасьця тыфусу, чорнай воспы, дэзынтэрыі і др. Патрэбна вельмі скорая помач.

**Беларуская Гімназія у Вільні.** 9 верасьня пачынае вучэньне. Экзаміны ўступные пачынаюцца 1 верасьня. У гімназію прымаюцца хлапцы і дзяўчаты. Пры гімназіі для вучняў істнуе інтэрнат. Гімназія месьціцца на Вострабрамскай вул. № 9.

**Польская прэса аб Беларусі.** Апошнімі часамі, асабліва пасьля заняцьця Менску, многа увагі на беларускіе справы зварочвае польская прэса. Беларусі і Беларускім справам пасьвячаюцца цэлые артыкулы. Асабліва часта гэткіе артыкулы напатыкаюцца у варшаўскай „Gazecie Polskiej" і віленскай „Nasz Kraj".

**Беларуская часопісь у Бэрліне.** У Бэрліне беларускім інформацыйным бюро выдаецца беларуская часопісь у нямецкай мове: „Weissruthenische Nachrichten." Падобные часопісі выдаюцца у Парыжу і Празе-Чэшскай.

**Справа арыштованых беларусаў.** З вестак Юрыдычнай Камісіі Віленскага Бел. Нац. Камітэту даведваемся, што апошнімі днямі з Віленскае турмы звольнено да 30 беларусаў. Застаецца у турме да 50 арыштаваных.

---

# Паведамленьне Польскага Гэнэральнага Штабу.

Ад 24 жніўня 1919 г.

**Фронт Л.-Беларускі.** Посьле пяцідзенных заўзятых баеў у районе Докшыц, нашы аддзелы разьбілі бальшавіцкіе сілы, што стаялі на ліні Пліса-Лужкі, змусіўшы сьмелай акружнай атакай частку тых сіл паддацца. Нашы аддзелы занялі Шаркоўшчыну, Плісы, Лужкі, здабыўшы 2 панцыр. цягнікі, 7 лёкам., 130 вагонаў і велькі запас амуныцыі. Лічба ўзятых палоных дасягае 40 аф. і 900 салдатаў.

На рэшце фронту без перамен.

**Фронт Валынскі.** Апрача разьведак, іншай баевой чыннасьці няма.

**Фронт Галіцыйскі.** Спакой.

Ш. аб. Шэфа Гэн. Штабу
**Галлер,** палкоўнік.

———

Ад 27 жніўня 1919 г.

**Фронт Л.-Беларускі.** У ваколіцах Сьвіслачы заўважаны вялікі рух непрыяцельскіх патрулеў. На паўночным участку—непрыяцель ў адвароце на Полацк і Дзісну. Абсадзіў ен Пракішкі, Пукалы і Манюкі. Непрыяцельскіе патрулі ўчора былі ў Румшанах і Чыжунах. Дужы патруль абстрэльваў дварэц Дукшты.

Участок ўсходні: Пры здабыцьці Глуска нашыя часьці ня мелі а ніякіх стратаў. Здабыча яшчэ не падрахована.

Велькапольская группа: Гасьцінец ўдоўж рэкі Бярэзіны ад Сьвіслачы да Бабруйска, як і места Сьвіслач пад моцным артылерыйскім агнем. Удоўж чугункі Ясень—Бабруйск куляметны і карабінны агонь з панцырнага поезду. На участку 2 Дыв. Лег. паядынчые стрэлы непрыяцельскай артылерыі. Разьбіты непрыяцель хаваецца па лясох. Лічба палонных падвышаецца. Зарэестровано 1000 чалавек. Гэтак сама павялічваецца здабыча: да 5000 артыл. снар., адзін лекомотыў, 16 машынных стрэльбаў і каля 1000 стрэльбаў ручных.

Павед. фронту Л.-Беларускага.

———

# Дописы.

## Польскі мітынг.

17 жніўня адбыўся у Менску вялікі „wiec polski". Сход меў інформацыйны характар. Гаварылі многія прамоўцы і на розныя тэмы. Н. Камісара Рачкевіч у некалькіх словах выказаў думкі Пілсудзкага і Сойму Польскага, каторых ён тут ёсьць выразіцелем волі.

Між іншым пан Рачкевіч гаварыў, што палякі прыйшлі вызвавіць нас, сваіх братоў, з зладзейскае, бальшавіцкае ўлады і што іх шчырым жаданьнем есьць пашырыць як мага болей прасьвету і народнае асьведамленьне,—цераз каторае толькі і можа наступіць збліжэньне двох братніх народаў; што прыйшлі яны да нас, як роўныя да роўных, што хочуць жыць з намі згодна і памагаць нам у нашай працы. Потым зьвяртаў увагу земляўласьнікаў на тое, каб сталіся яны зьбліжацца да селян, каб забываючы крыўды сталі згодна да супольнае працы для бацькаўшчыны і што ўрэшці селяне самі дабравольна выкажуць сваю волю за фэдэрацыйнае злучэньне Беларусі з Польшчаю.—

Прамовы другіх тутэйшых палякоў былі не сусім згодныя з праўдаю.

Асабліва дзіўным здаваўся крык тысячы галасоў: „Niech żyje Mińsk polski". Гэты окрык мімаволі пасовываў пытаньне: чаму так хутка беларускі Менск перарабіўся на Менск польскі? Сапраўды ён быў некалісь у ўніі с Польшчаю але польскім ня быў.

Але хто гэта крычаў?

Крычала наша неўдзячная моладзь, узгадованая на зямліцы Беларусі.

Крычалі людзі без ніякага асьведамленьня, бо ім так падсказалі другія—і вось такім хацелося-б сказаць „выбачайце ім, яны ня ведаюць, што чыняць".—

І мой окрык будзе такі: „Няхай жыве праца для роднага Беларускага краю".

N.

---

*Рэдактар-выдавец*
*І. ЛУЦЭВІЧ.*



З дозвал. Цэнзуры. Друкарня Я. Грынблята, Менск.